№ 18(134). Вільня, 5 Верасьня 1938 г. Год X.

# Шлях Моладзі

Šlach Moładzi

ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

## На пачатак школьнага году

5-га верасьня пачаўся новы школьны год. Сярод моладзі на вёсцы і ў месьце ажыўленьне. Усюды рух. Моладзь сьпяшыць да сьвятла, да навукі. Прыгожыя і мілыя абразы. Але, адначасна адбываецца і ціхая трагэдыя. — Ня гледзячы на тое, што сьвет, культура, так здаецца хутка ідзе наперад, народныя масы яшчэ часта ня маюць самых аснаўных інстытуцыяў—школаў, гэтых сьвятыняў сьвятла, без каторых сяньня немагчыма абходзіцца.

Найнавейшыя польскія статыстычныя дадзеныя з „Малога Статыстычнага Гадавіка“, „Вучыцялі ў лічбах“ і іншыя падлічэньні,прыносяць, асабліва вёсцы, сумныя весткі.

Стан пачаткавага школьніцтва ў 1937-38 г. у Рэчыпаспалітай выглядаў гэтак: усіх школаў было 27,235, у якіх вучылася 4,703,200 вучняў. З гэтага 2,163 школы з 1,195,700 вуч. прыпадала на месты, а 25,072 з 3,507,500 вуч. на вёскі. Пачатковыя школы дзеляцца на тры ступені: 1-ая ступень—гэта школы адна і двуклясовыя, 2-я ступень—школы трох і чатырох клясовыя і 3-я ступень—школы пяці, шасьці і сямі клясовыя. Распаложаны-ж гэтыя школы наступна: школы 1-шае ступ. — 18,405 (у местах 107, на вёсках 18,298!), школы 2-е ступ.—4,451 (у местах 30, на вёсках—4,421), школы 3-е ступені 4,379 (ў местах 2,026, а на вёсках 2,353!).

Цяпер калі прыпомнім сабе, што ў Польшчы 80 працэнтаў усяго насельніцтва становяць сяляне,—можам зразумець як упасьледжаным ёсьць у галіне асьветы сялянства. Як бачым, на вёсцы найбольш школаў першае найніжэйшае ступені. Ды яшчэ поў-



бяды было-б, каб хоць гэтых найніжэйшых школаў было даволі, а то і гэтых не хапае і, як цьвердзяць знаўцы, **больш міліёна моладзі** астаецца бяз школаў. Пры тым уся гэта бадай вялікая і страшная колькасьць прыпадае на ўсходнія землі. Бо так напркл., калі ў заходняй частцы Рэчыпаспалітай школа абыймае моладзь у 99 прац., то ўва ўсходніх ваяводзтвах **толькі 74 працэнты.** Моладзь-жа маючая 13-ць гадоў у тых-жа ўсходніх ваяводзтвах абнята толькі ў 57 прац. Ці-ж можна тады дзівіцца, што йдзе хваля паваротнага анальфабэтызму, г. зн. што тыя дзеці, якія калісь крыху вучыліся і ўмелі сяк-так чытаць і пісаць, пасьля забываюцца і стаюцца поўнымі анальфабэтамі?...

Далей зробім яшчэ адно малое, але цікавае параўнаньне. Паводле сьпісу насельніцтва з 1931 г. (да каторага многа хто мае, асабліва ў справе нацыянальнасьці жыхараў, засьцярогаў) падае, што паводле роднага языка жыхары працэнтова выглядаюць наступна: польскі язык—68,9 прац., украінскі і рускі — 13,9 прац., **беларускі—3,1 прац.**, расейскі—0,1, нямецкі—2,3, жыдоўскі—8,6 і інш.

Кніжка-ж „Вучыцялі ў лічбах“ падае, што паводле роднага языка вучыцялі дзеляцца гэтак: польскі язык—89,8 прац., украінскі і рускі—4,8, **беларускі язык—0,18**, расейскі—0,4, нямецкі—1,2, жыдоўскі і гэбрайскі—2,3 працэнты.

Да гэтага трэба дадаць, што беларускі язык бярэцца пад увагу ў навучаньні толькі ў 69 школах і ёсьць толькі адна беларуская гімназія.Ці-ж можна тады дзівіцца, што анальфабэтызм і што хваля паваротнага анальфабэтызму найбольш пашыраецца іменна сярод беларусаў?.. — Ясна, што не!

Агулам прыточаныя тут статыстычныя дадзеныя, друкаваныя ў афіцыяльных статыстыках і ў розных газэтах, аж надта ярка гавораць, што з асьветай у нас вельмі блага, тым больш, што няма ніякіх беларускіх асьветных курсаў і культурна-асьветных арганізацыяў. Кепска справа асьветы стаіць і у Беларускай Савецкай Сац. Рэспубліцы. Там нехапае вучыцялёў, нехапае школьных будынкаў, падручнікаў. Школьніцтва стаіць так-жа нізка і апошнім часам ува ўсе бел. школы ўводзіцца абавязкавы расейскі язык.

З цемрай, няграматнасьцяй аднак трэба змагацца. У цяперашніх часох няграматнасьць—гэта сьлепата роўная бадай сьлепаце фізычнай—калецтву. Ратунку ад гэтага калецтва мусім шукаць. Бязумоўна, для беларускага дзіцяці ў першую чаргу трэба **беларускіх школаў**. Апрача-ж школы ратунку ад гэнага калецтва можна йшчэ шукаць ў прыватным хатнім, саматужным навучаньні. — Абавязкам кожнага граматнага беларуса ёсьць вучыць, асьвечаць, усіх сваіх знаёмых і нават незнаёмых, што дасюль ня ўмеюць ані чытаць, ані пісаць, і агулам разьвіваць іх розум, волю і нацыянальную сьве-

# Новая хваля антыбеларускае палітыкі ў Савецкай Беларусі

З Беларускае Савецкае Сацыялістычнае Рэспублікі надходзяць новыя сумныя весткі, якія гавораць, што барацьба маскоўска-камуністычнага цэнтру з усім, што беларускае, прадаўжаецца. Праяўляецца гэта ўва ўсіх галінах. Дайшло ўжо і да таго, што ністожаць нават тых беларусаў, каторыя цэлы час выслужваліся камуністам і пяялі гімны на чэсьць Сталіна і ягоных паплечнікаў.

### «Мацёры двурушнік сьцёрты з аблічча савецкае зямлі»

Адным з найбольшых прыхільнікаў сучаснага сталінаўскага рэжыму ў СССР сярод беларускіх паэтаў быў Андрэй Александровіч. Ён адыйгрываў сапраўды паганую ролю. На ягогоным сумленьні ляжыць многа нявінных ахвяраў. Ён у сваей агіднай „паэме“ п. н. „Плямы на сонцы“ зьвярнуў вочы гепістаў на беларускіх пісьменьнікаў і агулам на беларускую інтэлігенцыю. Гепісты бралі ў свае рукі найлепшых сыноў Беларускага Народу, вялікіх бел. паэтаў, пісьменьнікаў, культурных і грамадзкіх дзеячоў і крывава з імі распраўляліся. — Александровіч палякайску пяяў оды на чэсьць Сталіна і іншых бальшавіцкіх „багоў“. Але прыйшла калейка і на яго. „Раб сваё зрабіў і раб можа адыйсьці“ — казалі калісь рымскія магнаты да чорных нявольнікаў. Гэтак сталася і з Андрэем Александровічам. Кончылася кар'ера і сталінаўскага пяўца. І ён апынуўся ў сутарэнах ГПУ і адгуль ужо ня выйшаў. Савецкая-ж прэса, якая часта друкавала ягоныя даносы і гімны Сталіну, падала такі кароткі „нэкралёг“: „Зоркія работнікі Народнага Камісарыята *Внутренніх Дел* прасьледзілі і выкрылі доўга арудаваўшага мацёрага двурушніка і ворага савецкага народа, шпіёна замежнай разьведкі і сьцёрлі з аблічча савецкай зямлі“.

А. Александровіч стаўся йшчэ адным клясычным прыкладам, якая доля спатыкае тых, што хочуць іншых, патаптаўшы, заслужыць на ласку сільных гэтага сьвету. Няхай-жа наша зямелька-матка беларуская нігдзе ня родзіць і ня корміць здрадных сыноў.

### Беларускай Савецкай Энцыклёпэдыі ня будзе

Гады два-тры таму назад менская прэса бязупынна расьпісывалася аб выхадзе ў сьвет Беларускай Савецкай Энцыклёпэдыі, якая мела быць першай беларускай энцыклёпэдыяй. Рэдакцыйны Камітэт Энцыклёпэдыі вызначаў дакладныя тэрміны, у якіх выйдуць том першы, другі і г. д. Урэшце была ўжо адкрыта падпіска на энцыклёпэдыю. Рэч зразумелая, беларуская энцыклёпэдыя зьяўлялася і зьяўляецца неабходнай „настольнай кнігай“ кожнага інтэлігента беларускага і кожнай навуковай і грамадзкай бел. інстытуцыі. Найлепшым доказам гэтага быў факт, што на бел. энцыклёпэдыю пачала масава напльіваць падпіска з усіх канцоў БССР. Чакала беларускай энцыклёпэдыі і ўся заграніца, асабліва навуковыя інстытуцыі. Тымчасам, як гром з яснага неба, надходзіць прэсавая вестка з Менску наступнага зьместу:

„На падставе пастановы СНК БССР ад 13 жніўня 1938 г. за № 1764 прыступіла да работы Ліквідацыйная Камісія па ліквідацыі спраў былай галоўнай Рэдакцыі Беларускай Савецкай Энцыклёпэдыі (БелСЭ). Прапануецца ўсім арганізацыям і асобам, якія маюць прэтэнзіі да БелСЭ, прадявіць такавыя (падпішчыкі павінны прыкласьці квіткі (арыгінал) на атрыманыя ад іх сумы задаткаў) да 5 верасьня 1938 г па адрасу: Менск, Ленінская 33

---

дамасьць. Вучыцца можна пакалейцы і цэлымі групамі да 8 чалавек, без ніякага дазволу, ад уладаў. Асабліва ўдзячнае поле да папісу маюць у гэтым маладыя граматныя беларусы. Беларускі лемантар „*Першыя зярняткі*“, беларуская граматыка, правапіс, задачнік павінны быць найбольш пашыранымі кніжкамі. На падмогу ім заўсёды йдуць беларускія часапісы, асабліва часапіс для дзяцей „*Zorka*“, пасьля „Шлях Моладзі“, „Самапомач“ і іншыя. Маючы пачаткавую асьвету, трэба знаёміцца з сваей літаратурай, гісторыяй, геаграфіяй і агулам далей разьвіваць сваю веду. Трэба толькі ахвоты. Пры добрай ахвоце можна шмат здабыць, супольнымі-ж сіламі можна ўсе перашкоды перамагаць...

Дык да працы!...

Я. Н.

---

Dr. Jadviha i Stanisłaŭ Hrynkievičy 11)

# Umovy i zahady nieabchodnyja dla zdaroŭja

## Hygijena chatniaje haspadarki.

**Ujezd na padvorak.** Zdajecca nie vialikaja sprava, a ad jaje šmat zaležyć. U siańniašniaj vioscy, dzie chata staić šmat užo hadoŭ, ciažka havaryć, jak zrabić ujezd, niama z čaho tam vybirać, dyk henaja karocieńkaja zaciemka maje naŭviecie infarmavać tych ščaślivych, jakija buduć stavić sabie novuju chatu. I tutaka taksama miecimiem naŭviecie asobna tych, što naładžyvajuć zusim nanava haspadarku (skažam na chutaroch), i tych, što staviać chatu na vioscy na staroj sialibie. Miarkavańnie zaŭsiody budzie jści ŭ troch napramkach, ci inakš kažučy treba padychodzić da henaje spravy ŭ troch płoščach: *praktyčna-haspadarčaj, estetyčnaj i hygijeničnaj*. Značycca, kab było najlepš z praktyčnaha boku hledžańnia, kab było tanna i adnačasna pryhoža.

U chacie treba najbolš śviatła. Dziela hetaha vokny jaje z čaści žyłoje vychodziać na *paŭdzień*, kuchnia — na poŭnač. Pierad chataju — aharodčyk. Ad *uschodu* stajać chlavy, stajnia, ad poŭnačy adryna, pasiaredzinie padvorka — studnia. Hetkim čynam najmienš buduć viejać na chatu viatry paŭnočna-ŭschodnija, usie haspadarskija budyniny buduć niedaloka žyłoha pamieškańnia. Jasna, nie zabyvacca vybirajučy miesca na chatu, kab byŭ tam dobry *stok* dla vady, inakš zaŭsiady kłopat z vadoju ŭ sklepie.

Pry takim planie raskładu ŭjezd na padvorak nakidajecca sam saboju. Jon budzie jści ad paŭdnia na paŭnoč. Lohka budzie tady zajści ŭ chatu biez taho, kab kanieśna zajaždžać na padvorak. Adnačasna nichto čužy nia łučyć na padvorak, kab jaho nia zhledzili z chaty.

**Lohki ujezd na padvorak** — źjaŭlajecca taksama važnaj spravaj pry budovie chaty. Kali ŭjezd na padvorak zroblen kala *ŭschodniaje ściany* chaty — tady treba stajniu mieć ad zachodniaje. Padvorak tady budzie asłaniacca ad zachadu i paŭnočy, a adkryty i svabodny—ad uschodu. Kali adnak-

Акадэмія Навук БССР, лiквiдкому БелСЭ. Пасьля ўказанага тэрміну ніякія прэтэнзіі прымацца не будуць. — *Ліквідком БелСЭ*".

Бальшавіцкая Масква дайшла да пераканаваньня, што лішнім было-б павялічываць беларускія выдавецтвы паважнейшымі бібліяграфічнымі пазыцыямі і гэтым прычыняцца да разьвіцьця беларускай культуры. Для „Сталінскай нацыянальнай палітыкі" „хопіць" выдаць пабеларуску пару няздарных брашурак, перакладзеных з маскоўскага языка, прамоваў Сталіна, Кагановіча і ін. І так „вольная, незалежная і квітнеючая Савецкая орденаносная Беларусь" ня можа здабыцца на энцыклёпэдыю ў беларускай мове.

### Зьмена гэрбу БССР

Кампазыцыя дасюлешняга гэрбу БССР прадстаўлялася наступна: паўночную паўкулю абхілялі з правага боку дубовая галінка з жалудамі, з левага пшанічныя каласы, а між імі была пяцікутная чырвоная зорка. На галінцы былі перавязкі чырвонай істужкі з клічам: „Пралетары ўсіх краін злучайцеся" пабеларуску, парасейску, пажыдоўску і папольску. Зьменены гэрб дубовае галінкі ня мае, а з абодвух бакоў паўкулі ёсьць пшанічныя каласы, пераплеценыя цьвітучай канюшынай і дасьпелым лёнам. Надпісы асталіся толькі расейскі (з правага боку) і беларускі (з левага). З вонкавага боку новы гэрб выглядае нават больш эстэтычна, чым папярэдні. Ня будзем так-жа бараніць польскага і жыдоўскага надпісу. Зьмена гэта для нас мала-важная, бо нашым імкненьнем ёсьць, каб гэрбам Беларусі была „Пагоня". Хочам толькі зьвярнуць увагу, што ўсюды расейшчына вылазіць на першае месца і памалу глытае ўсё нерасейскае. Праяўляецца гэта на кожным кроку.

Дэманструючыя жыхары Менску ў дні савецкіх сьвятаў носяць плякаты пісаныя амаль выключна парасейску. Беларуская мова пануе толькі ў кірмашныя дні на рынку, калі прыяжджаюць сяляне. У месьце, у ўрадах беларуская мова зьнікае. Урадаўцы гавораць парасейску. Гэта ня тое, што за часоў „нацдэмаў", калі кожны ўрадавец мусіў знаць беларускую мову практычна і пісьмом. Цяпер і бел. селянін змушаны ўва ўсіх бел.савецкіх установах гаварыць толькі парасейску, бо інакш не сталкуецца з ўрадаўцам, які беларускае мовы ня знае і ня лічыць патрэбным знаць яе.

Вось-жа ўсе бальшавіцкія зьмены накіраваны толькі на шкоду беларускаму народу. Няхай аднак ня думае Масква, што гэта выйдзе ёй і камуністам на карысьць. Беларушчыны ў народзе і бел. адраджэнскага імкненьня ніхто ўжо ня здушыць. Антыбеларуская-ж савецкая палітыка ператне толькі рэшце беларусаў дарожкі, сьцежкі і нітачкі, якімі ўсёж-такі плылі сымпатыі на ўсход, да расейскага народу. Перарэжа гэткая палітыка сымпатыі беларусаў і да радыкальных камуністычных клічаў. Цяпер кожны беларус, які зварочваў свае вочы на ўсход, праводзіць рэвізію сваіх паглядаў.

*А. Кавалькоў.*

## З рэлігійнага фронту

*Хто згадзіўся разбураць цэрквы?*

У № 16 „Шляху Моладзі" з 25.VII.1938 г. мы пісалі, што: „Аднэй з найбольш важных справаў у Украінцаў зьяўляецца цяпер абарона правоў праваслаўнае веры украінскага насельніцтва, сярод якога апошнім часам у Рэчыпаспалітай праводзіцца энэргічная акцыя наварочваньня на каталіцтва рымска-лацінскага абраду. Пры тым здараюцца частыя выпадкі падпалу праваслаўных цэркваў." Пасьля падобны выпадак здарыўся ўжо і ў нашай старонцы, а іменна ў Маладэчне, дзе хтось дагэтуль нявыкрыты ўзарваў праваслаўную царкву. У гэтых справах забіралі ўжо галасы ў форме пастырскіх лістоў праваслаўныя епіскапы і грэка-каталіцкі украінскі Мітрапаліт А. Шэптыцкі ў Львове, але пастырскія пісьмы іх былі сканфіскаваныя.

Аб усім-жа гэтым вясковы орган ОЗН-у „Wieś Polska," у №16 з 4.IX.38, даслоўна гэтак піша:

„Апошнім часам нашыя ўлады сканфіскавалі пастырскае пасланьне праваслаўнага сабору, а так-жа пастырскае пасланьне мітрапаліта Шэптыцкага. Пастырскія лісты праваслаўных біскупаў і мітрапаліта Шэптыцкага былі ў сувязі з распараджэньнем адміністрацыйных уладаў, каторыя, пасьля паразумленьня з адпаведнымі праваслаўнымі дзейнікамі, прыказалі на абшары некалькіх паветаў люблінскага ваяводзтва разабраць 90 цэрк-

---

ža ŭjezd budzie ad *zachadniaje* ściany chaty — tady stajniu treba budavać ad uschodu. Tolki hetak možna mieć ujezd prosty i vyhadny, a nie pałomany.

**Izba, sieni, kamora.** Zaŭsiody chata, na't najbolš skromnaja, maje izbu, dzie žyvuć ludzi, sieni j kamoru. U izbie staić piečka j žyvie ŭ joj bolšmienš, siarednie biaručy, kala piaci dušaŭ. Staviačy chatu zaŭsiody treba mieć na ŭviecie, kab budučym žycharam nia było dušna. Dziela hetaha izba nia moža być zamałaja, vyšyni kala 2-3 metraŭ i kala 6 metraŭ daŭžyni j šyryni. Uchod u stajniu, kab zaŭsiody byŭ prosta z padvorka, a ŭvachod u izbu kab byŭ cieraz sieni. Sieni baroniać ad vietru, hrazi, jakuju ludzi prynosiać z dvara na nahach; baroniać sieni i ad chaładu. Adnačasna sieni heta miesca, dzie haspadar trymaje pryłady svaje, dzie časta papraŭlaje inventar chatni, časta trymaje padručnyja zapasy. Uletku možna, pastaviŭšy ŭ sianiach plitu, waryć na joj, zamiesta taho kab rabić heta ŭ chacie. Z sianiej zaŭsiody jość toj ci inšy sposab, kab łučyć na haru (pamiž stalavańniem i strachoju). Dyk sieni pavinny być vialikija, mieć šyryniu takuju jak chata. Dobra było-b hetak abdumać pabudovu sianiej, kab jany mieli dvoje dźviarej, adnyja na panadvorak, a druhija na vulicu, kali chata ŭ vioscy. Henyja druhija dźviery mieli-b metu zapasnoha vychadu ŭ nahodzie pažaru ci niečaha takoha niečakanaha. Lahčej z hetkim raskładam trymać paradak i čyściniu. Z dźviuma dźviarami lahčej praviertyć pamieškańnie.

Padłoha ŭ chacie najzdaraviejšaja dzieraŭlanaja. Treba kab jana była niejkich prynamsia paŭmetra nad ziamloju. Kali hetak vysaka rabić fundamant, dyk nieabchodnyja buduć niejkija padmostki, kab uvajšci da chaty z vulicy ci panadvorka. Uschody rabić tolki z vulicy. Ad panadvorka lepšaja budzie sukosnaja padsypka da vyšyni paroha. Heta dziela taho praktyčniej, što lahčej niešta vynosić ci prynosić u chatu ci z chaty.

*Kamora* nadta patrebnaja ŭ chatniaj haspadarcy. Vialičynia jejnaja budzie zaležnaja ad haspadarki, ad kolkaści ludziej u družynie, ad kolkaści žyvioły i h. d. U kamory budzie chutčej žanočy addzieł haspadarki, žančyny tam trymajuć vopratku,

# Pracaj pryśpiašym svajo adradžeńnie

Nia hledziačy na toje, što źjaŭlajusia synam biełaruskaje ziamli, adnak, budučy ŭ čužym asiarodździ, z svaim biełaruskim žyćciom bližej zmoh paznajomicca tolki niadaŭna, i to zdajecca ŭ samy najciažejšy čas hetaha žyćcia.

Presa biełaruskaja, častkova polskaja, a navat i zahraničnaja, śćviardžajuć, što mahčymaści raźvićcia biełaruskaha adradženskaha ruchu apošnim časam niazvyčajna ciažkija. I sapraŭdy, biełarusy apynulisia na łodzie. Dajšło da taho, što ŭ Rečypaspalitaj niama navat nivodnaje biełaruskaje kulturnaaśvietnaje arhanizacyi, a presa takaja biednaja i tak joj ciažka trapić u ruki šyrejšych masaŭ, što jana nia moža naležna spoŭnić svaje infarmacyjnaje i aśvietnaje roli. Treba pryznać, što ciažkaja atmasfera navodzić pesymizm na niekatorych biełarusaŭ i źnieachvočvaje ich da spravy svajho narodu. Ale hetyja redkija i słabiejšyja adzinki vialikaje roli svajej adstałaściaj nie adyhrajuć i z ich nikomu nia budzie karyści. Faktyčna kadry śviedamych biełarusaŭ, hodnych synoŭ svajho narodu, katorym sprava bieł. adradžeńnia hłybaka lažyć na sercy, z kožnym dniom uzrastajuć. Ci adnak rola nacyjanalnaje śviedamaści ich maje ahraničycca da „ŭśviedamleńnia“ ciažkaha pałažeńnia Biełarusaŭ? Jasna, što nie! — Nacyjanalnaja śviedamaść musić pierad usim pryniać charaktar aktyŭnaści. Padstavaj Biełarusaŭ pavinien być pryncyp: *„praca i zhoda“*. U sučasny mament nie pavinny nas roźnić ani spravy socyjalnyja, ani relihijnyja. Zatoje pavinna nas łučyć vialikaja narodnaja i kulturnaja sprava.

Aktyŭnaść naša pavinna prajaŭlacca ŭ systematyčnaj planovaj pracy. U suviazi z hetym treba vyrablać arhanizacyjny zmysł. Biełaruskim hramadzkim i kulturnym dziejačom treba dobra paznać praŭnyja padstavy svaje pracy, haspadarstviennuju polskuju kanstytucyju, jaje artykuły i pry kožnaj spasobnaści pakazavać ich na śviatło dziennaje, dy damahacca ichniaje realizacyi. Spravu hetuju miž inšym treba zakranać i ŭ samaŭradach.

Važnaj spravaj ŭ našym žyćci jość umiełaje sarhanizavańnie prapahandy svaich biełaruskich knižak, časapisaŭ, biełaruskaha muzeju i ahułam usich bieł. arhanizacyjaŭ i instytucyjaŭ. Prapahandu takuju pavinien pravodzić kožny biełarus u svaim, a taksama i ŭ čužych asiarodździach.

U žyćci našym treba bolš uvahi zvaročvać na praktyčnuju filozofiju zachadu, a nia tolki na sentymentalny idealizm uschodu. Da hetaha ŭsiaho treba mieć pierad usim vialikuju vieru ŭ svoj narod. Vieru-ž hetu kožny biełarus budzie mieć, kali krychu šyrej razhledzicca navakoł siabie i kali kinie vokam na historyju narodaŭ. Pierakanajecca tady, što narody ŭściaž zaniepadali i ŭściaž adradžalisia, paŭstavali i paŭstajuć i ničoha ich u hetym imknieńni nia strymaje. Nia tak jašče daŭno złučyŭsia niamiecki narod, a faktyčna roźnicy ŭ im i ciapier jość. Polski narod uśviedamiŭsia tolki paśla paŭstańnia ŭ 1863 h. Narod ukrainski masava ŭśviedamiŭsia u čas i paśla suśvietnaje vajny. Naš biełaruski narod akančalna jašče svajho ŭśviedamlenaha pracesu nie prajšoŭ, bo jość jašče miascy, dzie narod nacyjanalna niaśviedamy. Dyk našym zadańniem jość praces hety pryśpiašyć zhodnaj i planovaj pracaj.

*Andrej Pasyniak.*

---

ваў, 10 капліцаў і 27 дамоў малітвы.“

Усё тут больш-менш ясна. Ня ясна толькі, якія праваслаўныя дзейнікі згадзіліся на разборку цэркваў тады, калі праваслаўныя епіскапы выступілі супроць гэтага?... Добра было-б, каб „Wieś Polska“ і гэта выясьніла. *З. Б.*

---

PAPRAŬKA. U № 17(133) „Šlachu Moładzi“ na pieršaj bačynie praz niedahlad padana data 25 lipnia, a treba kab było 25 ŽNIŬNIA.



---

zapasy takija, jak krupy, muku, haroch, marynaty, kanfitury j inšyja. Zvažajučy na heta treba, kab kamora była na ŭschodzie ci na poŭnačy, kab u joj možna było lohka zrabić pravieŭ. Pažadana, kab u kamory było akno, chacia-b nadta maleńkaje j to z čyrvonym škłom. Čyrvonaje škło zabiaśpiečvaje ad dziejańnia koskaŭ sonka na kłustaść i nie daje, kab masła, prykładam, jałčeła. Ścieny ŭ kamory vybialić vapnaj, palicy z suchoha dreva j dobra vymytyja zaŭsiody. Padłohu pažadana zrabić z cemantu. Lahčej takuju padłohu vymyć. Myć treba kamoru prynamsia raz na tydzień. Vietryć, kab tam było zaŭsiady śviežaje pavietra. Nie dapuskać, kab zaviałaś u kamory vohkaść, nie zanasić bałota na nahach, nie ŭvachodzić z lampaju, jakaja moža nakapcić. U ścienkach apračа palicaŭ treba kab byli hvazdy. Usieńka, što viešajem na hvazdoch, kab nie datykałaś da ścienki, inakš lohka moža zaviaścіś pleśń. Na muku, krupy, haroch, fasolu najlepš mieć u kamory skryniu z viekam i sietkaj, kab da henych praduktaŭ mieła dostup pavietra, inakš henyja pradukty lohka zaśmiahnuć. Kali kamoru zamiatajem, treba skryniu ščylna zamykać dzieraŭlanym viekam.

**Sklep.** Dziela taho, kab składyvać jarynu i inšyja prypasy, haspadarka pavinna mieć dobry čysty sklep. U pačatku leta treba jaho dobra zamieści j vybialić vapnaj. Piasok ad letašniaje jaryny treba vynieści na dvor, kab słonka vysušyła, potym pierasiejać praz sita i usypać nazad u čysty sklep. Dźviery j vokny pavinny być ščylnyja, kab baranić ad vietru j marozu. Adčyniać vokny i dźviery u sklepie možna tolki tady, kali na dvare chaładniejšaje pavietra, čym u sklepie. U praciŭnym razie źjaŭlajecca na jaje ścienkach rasa, zavodzicca praz heta vohkaść i praśmiahły pach, jaki pierachodzić na jarynu i ŭsie inšyja prypasy, znachodziačyjasia ŭ sklepie. Pravietryć sklep možna tolki ŭnačy chałodnyja i suchija.

Sklep pavinien mieć pravieŭ i stałuju temperaturu plus 6-8 hrad. C. Kali ŭ sklepie zaviałaś vohkaść i chočam jaje adtul vyvieści, stavim u im skryniu z palenaj vapnaj, jakaja pahłyniaje vohkaść, abo ŭ 4 kutoch sklepu spalivajuč dreŭny vuhal. Padłoha ŭ sklepie pavinna być hładkaja, treba časta

* * *

Прысьв. Я. Пачопцы

*Ёсьць душы ціхія,*
*як вечар над ракою,*
*Калі раса садзіцца пэрлай на траве.*
*Ды бунт жыцьця ня ўтопіш лёгка ў спакою,*
*Як-бы шчанё вясной*
*купаючы ў раве.*

*І што за сэнс радзіцца з сэрцам Промэтэя*
*І не украсьці ў неба*
*тайны і агня.*
*Замкнуць тугу і сум жывы*
*У ямбах і хорэях*
*і цэлы час чакаць*
*На радасьць заўтрашняга дня.*

*Усё жыцьцё з цяжарам за плячамі*
*Праз будні хмурыя —*
*да мэты працягнуць.*
*Як цяжка нам жывым бязсоннымі начамі,*
*Калі няма чым жыць*
*і вольна уздыхнуць.*

*А думы — кагаркі сівыя над балотам*
*Клюююць душу... клююць пытаньнямі ў цішы...*
*І кожны хоча жыць —*
*на'т кінуты пад плотам*
*З душой ціхой...*
*душой расьпятай на крыжы.*

Гэрманавічы. 1938. *МІХАСЬ МАШАРА*

* * *

*Аж да небасхілу гойдаліcь палоскі*
*Сьмехам лета-шуму, сьмехам сьпелых ніў.*
*Йшла дзяўчына сьцежкай з недалёкай вёскі,*
*З серпам пад рукою, з сумам на душы.*

*І блішчэла сонца яснасьцю на небе*
*І ўплятала косы ў русы валасы.*
*Эх! Няшчасна доля, беднае дзяўчыны,*
*На чужым трэ' полі жаці каласы.*

*Жаўранкі ў блакіце песьні ўжо канчалі,*
*І ля дрэваў летні цень палосы клаў —*
*Сьпіну гнула ўсё і рук ня чула ў працы,*
*Ля яе прыгоншчык цэлы дзень стаяў.*

*А. ЧАРОМХІН*

# Letam u lesie

Ciomnym vostupam zyjšlisia
Stromkija chvainy,
Ŭ nieba siniaje utknuli
Šapki-vierchaviny
I stajać jak vielikancy
Nad maładniakami,
To ŭzdychajuć šumavista,
To skrypiać kamlami.
A łachmatyja jaliny,
Šyšak načaplaŭšy,
Niešta dumajuć, panura
Majakami staŭšy.
Dub zialony, viekapomny,
Ž imi pasiabryŭsia
J, jak asiłak-pieramožca,
Chvacka raskudryŭsia,
I hladzić, jak za prahałaj,
Za imšarnaju dalinkaj,
Biel-bialavaja biaroza
Stała siracinkaj.
Joj asina-trapatunka
Niešta ŭsio šapoča
I časami bajaźliva
Liściejkam trapoča.
Siam i tam zyjšlisia ŭ kučki
Hnutkija laščyny
J pachilili nad ziamloju
Tonkija stusiny.
Z-za laščynaŭ vyhladajuć,
Jak z-za družki družka
I kalučaja šypšyna,
I pyžasta jhruška,
I bryzhlina kaktavata,
Ŭsia ŭ karalach, u visiulkach,
I zialonaja rakita,
Niby ŭ perłach-kasmatulkach,
I kalina list-šyroki
U bukietach śnieżnaj bieli
Dumna pyšycca saboju,
Jak małodka na viasielli.
Pobač ź joju strojna stała
Kučaravaja rabina
Ŭ hroździ jahadaŭ prybrana,
By ŭ karali ci rubiny.
A na ich, na pryhažuniaŭ,
Z horki ŭzbočnaj, kasahoru
Pazirajuć pranikliva
Klon i jasień—hości boru.
Ŭsio łasuškami adnymi
Bor bahata ich častuje:
I sunicaŭ, i čarnicaŭ
I malinaŭ nie škaduje,
A jak dzień adno nastanie—
Sałaŭjami ich vitaje
I da nočy, da hłybokaj,
Śpievam ptušak zabaŭlaje.

**Ŭład-Inicki.**



**Paśla leta z novym zbožam da młyna...**

hladzieć, ci niama myšynych norak pa kutoch. Kali-b znajšliś takija — treba vypaŭnić nory raźbitym drobna škłom i zalić cementam.

**Kali ŭ sklepie zaviaducca pleśni** — treba jaje tady dezynfekavać. Robiać heta tak: vynosiać sa sklepu ŭsie zapasy, zatykajuć ščylna dźviery i vokny. Biarecca 1½ kg. soli, syplecca jaje ŭ kamiennaje načyńnie i nalivajecca pałova litra sierkavaj kiśli. Paśla treba chutka vyjšci sa sklepu. Hazy, jakija tady paŭstajuć, u chutkim časie niščać usie pleśni i bakteryi. Paśla 6 hadzinaŭ treba sklep dobra pravietryć, pleśniu vymieści. Praz doŭhi čas pleśni nia budzie.

**Pavietra ŭ chacie.** Śviežaje pavietra, jak užo viedajem, vielmi važnaje i karysnaje dziela zdaroŭja čałavieka. I naadvarot, sapsavanaje pavietra vielmi, škodnaje čałavieku. Vielmi-ž časta bačym, što ŭsia siamja, haspadar z haspadyniaju j usimi dziećmi, dychaje śmiardziučym pavietram u praciahu dnia j nočy. I nahladajecca heta nažal i ŭ chatach sialanskich na vioscy i ŭ pracoŭniach šaviecкich, stalarskich i h. d.

Najčyściejšaje pavietra majem u poli, u lesie, nad łuham, nad rečkaju.

Adkul biarecca papsavanaje pavietra ŭ izbie?— Ujavim heta lohka, kali hlaniem na pieršuju lepšuju izbu, zaŭsiody začynienuju, mała pravietrynuju, u izbie, dzie šmat ludziej, dzie jany pracujuć, jaduć, varać, myjuć chuście. Było-b dziŭna, kab tam pavietra dy nia było papsavanaje. Kali niechta ŭvojdzie ŭ hetkuju chatu dyk kaniecca da jaho smorad i duchata, pačynaje jamu baleć hałava, chapajuć młosnaści. Heta jakha pakazvaje na toje, jakoju atrutaju dziela čałavieka źjaŭlajecca papsavanaje pavietra. Što jašče nie takija błahija śledamki nahladajem na žycharach vioski ad błahoha pavietra, dyk heta tolki dziakujučy tamu, što ŭletku viaskoŭcy ačuniajuć, papraŭlajuć svaje lohkija dy ahułam arhanizm pry pracy ŭ poli.

Ahułam čałaviek, jaki biazupynna siadzić u papsavanym pavietry, tak da jaho pryvykaje, što nia maje bolaŭ hałavy, ani młosnaści, adnak atruta z henaha pavietra vyklikaje ŭ jahonym arhaniźmie takija ci inšyja pieramieny, što kančajucca vielmi ča-

# Zbiełaruskaha žyćcia

**Ciažkaje stanovišča Biełaruskaha Muzeju.** Jak viedama, Biełaruski Muzej u Vilni, paśla pazbaŭleńnia jaho haspadarstviennymi ŭładami hrašovaj dapamohi, apynuŭsia ŭ ciažkim mataryjalnym stanoviščy. Dziela hetaha mnohija vilenskija biełarusy, ratujučy muzej i idučy za hołasam biełaruskaha sumleńnia i pačućcia, apadatkavalisia na karyść muzeju i ŭžo płaciać pastajanna kožny miesiac dabravolnyja składki. Da hetkaha pastupku zaklikajem usich Biełarusaŭ. Pierasyłać składki možna praz našuju redakcyju, z zaŭvahaj „na Muzej", abo na adrys: *Chrześcjański Bank Spółdzielczy na Antokolu. Wilno, Mickiewicza 1.* (Na kuponie adznačyć *na rachunek Białoruskiego T-wa Naukowego*).

Muzej, nia hledziačy na ciažkoje pałažeńnie, dziakujučy achviarnaści pracaŭnikoŭ i padtrymańniu hramadzianstva, funkcyjanuje narmalna. Za pieršyja 8 miesiacaŭ hetaha hodu (da 31.VIII) u Muzei byli 4663 asoby. Lik adviedvajučych Muzej asob stała pavialičvajecca.

**Biełaruskaja pieśnia ŭzbahačyvajecca.** Viedamy ukrainski kampazytar M. O. Hajvoronškyj niadaŭna prysłaŭ z Niu-Jorku (dzie jon pastajanna pražyvaje) rehientu biełaruskaha choru ŭ Vilni hram. R. Šyrmie piać novych harmanizacyjaŭ biełaruskich narodnych pieśniaŭ na miašany chor: 1. „Oj lacieli dy dva hałubočki" (vałačobnaja), 2. „Jak pajšoŭ Mikoła" (vałačobnaja), 3. „Lavonicha", 4. „Oj u poli dźvie ptušački" (rekruckaja), 5. „Oj huknuła syraješka" (žniŭnaja). Harmanizacyi adznačajucca niazvyčajna vysokim artyzmam.

Słaŭny biełaruski rehient hram. R. Šyrma, sioleta ŭ časie letnich kanikułaŭ, budučy na paŭdni Pružanskaha pavietu (etnahrafičny rubiež biełaruska-ukrainski), zapisaŭ bolš 40 biełaruskich narodnych melodyjaŭ i tekstaŭ, u tym liku kala 10 kaladak i ščadrovak. Niekatoryja pieśni śvieckija vyražajuć asablivaści biełaruskaj staraśvieččyny, z pahanskich časoŭ, kali Biełarusy nia byli jašče chryścijanami.

**Novy dyrektar Bieł. Himnazii.** Dasiulešniaha dyrektara Biełaruskaj Himnazii ŭ Vilni hram M. Ancukieviča školnyja ŭłady pieraniaśli ŭ polskuju himnaziju na stanovišča vučyciela ŭ centry Rečypaspalitaj. Na jaho miesca naznačany B. Kavalevič. Pryčyny hetaj źmieny niaviedamy.

**Napłyŭ vučniaŭ u Biełaruskuju Himnaziju ŭściaž pavialičvajecca.** Sioleta, tak jak i ŭ minułym hodzie, u adzinuju Biełaruskuju Himnaziju ŭ Vilni było bolš jak ŭ dva razy kandydataŭ čymsia moža himnazija pamiaścić. I nia hledziačy na toje, što šmat kandydataŭ adpała na ekzaminach, jošć jašče mnoha takich, što ekzamin zdali a miesca ŭ himnazii im niama. Ahułam napłyŭ vučniaŭ u Biełaruskuju Himnaziju ŭściaž pavialičajecca. Dziela hetaha Baćkaŭski Kamitet Bieł. Himn. 2.IX pasyłaŭ da Vil. Škol. Kuratara delehacyju z prośbaj adčynić raŭnaležnyja klasy. Ale, nažal, pakulšto ab pazytyŭnym adkazie z Kuratoryi na prośby biełaruskich baćkoŭ ničoha nia čuvać.

**NABAŽENSTVY DLA BIEŁARUSAŬ u kaściele śv. Mikałaja ŭ Vilni paśla letniaha pierarvu pačnucca ŭ niadzielu — 11.IX u hadz. 10 rana.** U hetaj-ža hadzinie nabaženstvy buduć adbyvacca kožnaj niadzieli i śviata.

**Biełarusy ŭ Litvie.** Daviedvajemsia, što biełarusy ŭ Kaŭnasie maniacca naładzić vydavańnie biełaruskaha časapisu i vydać na 1939 hod kalendar-knižku. Dumku hetu horača vitajem!

*З нашай долі і нядолі*

## Багацьце

Ці шмат зямлі, мой дзядзька, маеш
Усей сваей?
І колькі душ ты налічаеш, —
Усіх дзяцей?
Зямлі то многа: ...дзесяціна
І ўся мая;
Шасьцёх сыноў, адна дзяўчына,
Жонка і я.
А як жывеш, мой дзядзька мілы,
І як з ядой?
Ці крэпка чуешся на сілы
Ў бітве зь бядой?
Жыву па-Божаму, як трэба,
Пашчу што-дзень,
Ды толькі сіл шкадуе неба...
Зь мяне — ўжо цень...

*С. Ярына.*

---

sta nadta ciažkaju chvarobaju. Chvaroba henaje prajaŭlajecca ŭ tym, što čałaviek chudzieje, nia maje achvoty da jady, skura ŭ jaho maje vyhlad zaśmiahšy, maje jon nachił da roznych inšych chvarobaŭ. Kali hetkaha čałavieka nasudošyć chvaraść, dyk mała kali jon umiecimie z jaje vykaraškacca.

Papsavanaje pavietra asabliva škodnaje dziela dziaciej. Dzieci hetkija kiepska hadujucca, chutka ŭmirajuć, a kali na't i vyrastuć, dyk zaŭsiody buduć niadužymi, z nachiłam da roznych chvarobaŭ.

Čałaviek dychaje, z pavietram vydychanym vychodzić usieńka toje, što ŭžo niepatrebnaje ci na't škodnaje dziela arhanizmu. Chutčej pavietra psujecca, kali čałaviek pry hetym ciažka pracuje, paciejučy da taho jašče Kali-ž takija ludzi nia myjucca akuratna dy nia kupajucca, majuć na sabie papeckanaje chuście, vopratku, abutak, usieńka heta miašajecca z pacham ad harškoŭ ci ad taho, što ŭ chacie robicca.

**Chatni hryb.** Raście heny hryb na tych miascoch, dzie zaviadziecca vohkaść: na ścienach, pad uschodami, abrastajuć hrybam dreva, skura, matarjały, vopratka, spažyvieckija pradukty, prykładam frukty, miasa i h. d.

Najčaściej hryb prynosicca ŭ chatu z dzieravam, z jakoha stavicca chata. Hryb siadzić achvatniej na saśnie, chvojcy, moža być i na dubie, choć dub jašče najbolš adporny. Hryb pajaŭlajecca chutčej ŭ starych chatach, choć moža być i ŭ zusim novych. Dziela taho, što dziela rostu hryba patrebnaja vohkaść, dyk i raście jon tam, dzie mokra dzie mała vietrycca, dzie niama sonka. Pry ciaplini ŭ chacie razrastajecca jon macniej; naadvarot, ad nadta silnaje haračyni ci marozu jon prapadaje.

Najčaściej pieršym miescam, skul pačynajecca hryb, budzie sklep, kali jon zrobleny pad chataju. Z takich miascoŭ hryb idzie navierch, moža na't razłožnić cehły, ułazić u belki, stul na chatniaju abstanoŭku, šafy i h. d. Dreva, ŭ jakim zavioŭsia hryb, robicca mokrym a vysachšy rassypajecca. Dreva, zaražanaje hrybam, mianiaje koler, robicca jano brudna-žoŭtym, pajaŭlajucca na drevie ščarubiny, urešcie robicca takim krochkim, što kryšycca ŭ palcach. Časta nia bačym hryba pačatna źvierchu dziela taho, što siadzić jon usiaredzinie j tolki papsavaŭšy ŭsieńka vychodzić navierch, abo prosta bačym, kali dreva, stol ci padłoha treśnie.

Jak škodzić hryb na zdaroŭje? Psuje jon pa-

# ШТО ЧУВАЦЬ

— У **Польшчы** на парадку дня цяпер самаўрадавыя выбары, каторыя маюць хутка ўжо распачацца. Палітыкі думаюць ужо так-жа аб выбарах у Сойм і Сэнат, а таксама аб выбарах Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай, якія адбудуцца ў 1940 г. Сэнсацыяй апошніх дзён ёсьць весткі, што Камінтэрн разьвязаў **Польскую Камуністычную Партыю**, якая, ясна, працавала нелегальна. Адначасна разьвязаны быццам **Камуністычная Партыя Заходняй Беларусі**, Кам. Парт. Заход. Украіны і Камсамол, каторыя былі прыбудоўкамі Польскай Кам. Партыі і ад яе цалком залежныя. Партыі гэтыя развязаў Камінтэрн дзеля таго быццам, што ў іх аказалася шмат шкоднікаў. Пасьля гэтага ўсе гэтыя камуністычныя арганізацыі маюць быць сарганізаваны на нова.

— **Чэхаславаччына** перажывае найбольш крытычны мамэнт. Міма вялікіх стараньняў, усё яшчэ нацыянальны вузёл ніяк ня могуць там разьвязаць. Асабліва апякуецца цяпер гэтай справай Англія.

— На міжнародную арэну апошнімі днямі высунулася і **Мадзяршчына**. Справа ў тым, што Гітлер і Мусоліні хочуць гэта гаспадарства перацягнуць да сябе і выкарыстывалі дзеля гэтага ня надта добрыя адносіны Мадзяраў з гаспадарствамі **Малой Антанты** (Чэхаславаччыны, Румыніі і Югаславіі). Бачачы гэта Малая Антанта перад выездам павадыра Мадзяраў Горті'га ў канцы м-ца жніўня ў Нямеччыну, куды яго запрасіў Гітлер, пайшла Мадзяршчыне на ўступкі. Прызнала між іншым права збраеньня Мадзяршчыне, што раней было ёй забаронена. У гэтым палітыкі бачаць руку **Францыі**, да каторай М. Антанта вельмі блізкая. Горті ў Нямеччыне прыйманы быў вельмі ўрачыста, аднак да заключэньня якога-небудзь дагавору між Мадзяршчынай і Нямеччынай здаецца не дайшло.

— У **Францыі** ў фабрыках ня так даўно ўведзены 40-гадзінны тыдзень працы. Дзеля таго, што ў ваенным прамысьле гэта многа перашкаджала, прэм'ер Даляд'е пастанавіў там вярнуць 48-мі гадзінны тыдзень працы. З гэтай прычыны паўсталі непаразумленьні і двох міністраў падалося ў адстаўку. Іх месца занялі новыя людзі і ўсе непаразумленьні бадай-што ўжо зьліквідаваны.

— Фашысты ў **Італіі** выдалі загад выехаць з іх краіны ўсім жыдом, каторыя пачалі там жыць ад 1918 г.

— У **Нюрнбэргу** (Нямеччына) пачаўся гадавы кангрэс Гітлераўцаў.

## Hien. Želihoŭski ŭ spravie bieł. Ajcoŭ Maryjanaŭ

1 vieraśnia pasoł hien. L. Želihoŭski byŭ u premjera hien. Słavoj-Składkoŭskaha i ŭručyŭ jamu svajo aśviedčańnie ŭ spravie vysielenych z klaštaru ŭ Drui biełaruskich zakońnikaŭ ajcoŭ Maryjanaŭ. Hetaje aśviedčańnie vysłana takža ŭ kancylaryju P. Prezydenta R.P., maršałkam Sojmu, Senatu i ministru Aśviety i Vieravyznańniaŭ.

— У Покенсіі, каля Нью-Іорку (Зл.Шт. Паўнч. Амэрыкі), адбыўся надовячы **міжнародны кангрэс моладзі**, у якім бралі ўдзел прадстаўнікі ад 55 краін. Кангрэс абгаворваў справу супрацоўніцтва, сужыцьця і міру між народамі.

— У нарадах **Кангрэсу Нацыянальных Меншасьцяў** у Штокгольме (25 і 26.VIII) бралі ўдзел 30 дэлегатаў ад розных нац. меншасьцяў з 12 гаспадарстваў. Беларусы на гэты кангрэс выслалі прывітаньне і свае пажаданьні.

— Між **Японцамі і Кітайцамі** ідзе цяпер барацьба за м. Ганкоў. Нямецкія знаўцы кажуць, што хоць японцы забяруць і Ганкоў, то ўсёроўна Кітаю не перамогуць.

У **Гішпаніі** далей ідзе барацьба бяз большых зьменаў. Тое самае і ў **Палестыне**, дзе ліецца ўсьцяж кроў, у барацьбе за зямлю і правы між Арабамі, Жыдамі і Англійцамі.

*jn.*

---

vietra ŭ izbie, robić škodu ŭ haspadarcy, raźjadajučy dreva j skaročvajučy viek chaty. Dalej, drobnyja pylinki hryba mohuć łučyć u orhany dychańnia čałavieka, vyklikajučy ŭ ich roznyja chvaroby. Hryb, łučyŭšy ŭ stravatraŭčy aparat, moža tam razrastacca, majučy jakha ŭ kiškach dobryja ŭmovy dziela razvoju.

Što rabić kab zmahacca z hrybom? — Daloka biaručy treba było b vykinuć dreva zaražanaje. Zrabić heta trudna, dyk prynamsia vysušyć usieńka j pravietryć. Staviačy chatu, vybirać dreva čystaje j zdarovaje. Jość roznyja lakarstvy na hryb, prykładam *karbolineum* abo *kreazotavy alej*. Šmarujučy im dreva treba vyścierahacca, henyja lakarstvy źjaŭlajucca davoli silnaju atrutaju j dziela ludziej.

**Muchi i zmahańnie z imi.** Muchi — žyvioła nadta dakučlivaja, heta viedaje kožny. Nia ŭsie zatoje viedajuć, što jany škodnyja dziela zdaroŭja j ludziej j žyviołaŭ tamu, što jany *raznosiać* na svaich nožkach i ŭ vyparažnieńniach roznyja bakteryi, miž inšymi bakteryi brušnaha tyfusu, chalery, kryvaŭki, suchotaŭ i inšych. Muchi jakha j buduć adnym z dziejnikaŭ, jaki spryčyniajecca da raspaŭsiudžvańnia zaraznych chvarobaŭ uletku.

Najbolš prostym sposabam zmahańnia z henymi małymi kuślivymi žyviolinami buduć šklannyja muchałoŭki, dalej — atručanaja papiera, papiera z klejem. Pamahaje zavieŝyvańnie voknaŭ, dziela taho što muchi papociemku horš razmnažajucca. Vietryć pamieškańnie ŭletku treba zaraz-ža paśla ŭschodu sonka, pakul muchi jšče nie latajuć, i pozna ŭviečary, kali muchi ŭžo śpiać. Dźviery j vokny ŭ chacie ščylna začyniać i zasłaniać.

Spažyvieckija pradukty ŭ chacie i ŭ kamory treba *chavać*, kab na ich nie siadali muchi i nie karmilisia. Łastaŭki jadziać muchaŭ całymi masami. Nie raškidać dziela taho hniozdaŭ łastavak.

Pa chlavoch i stajniach šmaravać ścieny *vapnaj z alunom*, ci zamiest alunu, što jašče šmat praściej, damiašać *krezolu* ci *lyzolu*. Hnoj pasypać ziamloju z *boraksam*. Boraks zabivaje čarviačkoŭ, z jakich rastuć muchi. Paŭtarać heta niekalki razoŭ u praciahu leta.

Muchi nadta nia lubiać pachu *arechavaha dreva*, dyk vielmi dobra, kab pasusiedzku sa stajniaju pasadzić prynamsia adnu laščynu. Dziela taho, što jaječki muchi składajuć achvotna ŭ hnai, dyk pažadana, kab hnojnaja jama ci miesca, dzie vykidajecca śmiaćcio, było krychu voddal chaty.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.



## З КРАЮ

### Някультурнасьць на вёсцы

*в. Задубеньне, Крывіцкае вол., Вялейскага пав.* Някультурнасьць на вёсцы прыймае пагражаючыя разьмеры. Бойкі і „гульні“ з нажамі павялічваюцца, бо беларускія бібліятэкі-чытальні, якія нясьлі сьвятло пад сялянскую страху, разам з беларускімі арганізацыямі, пазакрываны. На іх месца нічога яшчэ ня створана, а польскія арганізацыі беларускіх не заменяюць, бо ўсё вядуць папольску, незразумела для бел. сялян. Школа на вёсцы бяз роднае мовы таксама ня можа прычыніцца да замацаваньня граматнасьці. Каб ня быць галаслоўным, падаю факты. Сёлета было абвешчана, што ня будуць прыймаць у Латвію на сэзонныя работы няграматных, дык усе хлопцы з в. Задубеньне, каторыя думалі ехаць у Латвію, аказаліся няграматныя, хоць кожны з іх адседзіў сем гадкоў у пач. польскай школе, і былі змушаны хадзіць на вячэрнія курсы,каб навучыцца расьпісацца і гэтым дабіцца выезду ў Латвію. — Ясна, што для нашага народу патрэбная школа родная—беларуская. І сяляне в. Каранішачы і Задубеньне ў 1936 г. падалі дэклярацыі Школьнаму Інспэктару Вялейскага пав. на адкрыцьцё ў Задубеньні беларускае школы, але далей існуе тут толькі польская школа. Бедната сялян стаіць пры тым на перашкодзе пашыраньню друкаванага слова. Адчуваецца голад кніжак, асабліва дзеля пашырэньня пачаткавае асьветы. Бязумоўна трэба ўсе перашкоды перамагаць і будзіць моладзь да культурнага жыцьця. Калі будзем баяцца перашкодаў, то і далей будзем нешчасьліўцамі. Хто пераможа цемнату, той уцешаны будзе пазьнейшаю памыснасьцю.

Дык вось, браты! Кіньмо бойкі і п'янства і хутчэй за асьвету! Замест нажа і другіх прыладаў да бойкі, купляймо супольна кніжкі і газэты. Пакажэма, што мы, як і ўсе культурныя людзі, хочам жыць палюдзку, культурна.

*Кастусь.*

### Endeki svatajucca da biełaruskich sialan

*Ašmiana.* Što-raz čaściej źjaŭlajemsia śviedkami, jak polskija endeki, ci jak jany siabie nazyvajuć „Stronnictwo Narodowe“ i jahonaja „Sekcja Młodych“ pryjaždžajuć u našyja miastečki i vioski i starajucca zdabyć prychilnaść biełaruskich sialan, vystupajuć prociŭ žydoŭ, abiacajučy roznyja reču i ŭhavorvajučy, što my tutejšyja sialanie—palaki. Voś-ža treba viedać, što endeki heta buržuaznaja,nacyjanalistyčna-polskaja partyja i najhoršaja ŭ adnosinach da nas biełarusaŭ. Endeki nia majuć upływaŭ navat siarod polskich sialanskich masaŭ. Jany hurtujuć kala siabie tolki zamožnych miaščan, abšarnikaŭ, ksiandzoŭ i ichnich devotkaŭ. Dla našaha kraju jany ničoha dobraha nie niasuć. Kali jany buduć mieć uładu, to budzie napeŭna najhorš sielaninu, najbolšy prašled dla biełarusaŭ i najbolš budzie siarod nas polskich asadnikaŭ, a naš čałaviek ničoha nie dastanie, bo endeki našych ludziej chočuć zusim zdušyć. Ciapier jany sałodka piajuć, bo chočuć zdabyć hałasy ŭ časie vybaraŭ u samaŭrady dy ŭ Sojm i Senat.—Dziela hetaha endeki ŭ nas nie pavinny znajšci sabie miesca i nia možna dapuščać, kab jany atumańvali niaśviedamych ludziej našaha kraju.

B. K.

## НАВІНЫ

**Kali buduć biełaruskija aŭdycyi?** Vilenski Ozon jašče ŭ lipni na svajej naradzie miž inšym damahaŭsia biełaruskich aŭdycyjaŭ u vilenskim radjo. Tymčasam jak nia było ich, tak niama.

**Zaćviła hruša i akacyja.** U Słonimie nadniach u adnaho haspadara zaćviła sioleta druhi raz hruša i akacyja.

**Jajki na vahu.** Ad 28.VIII.38 abaviazuje ŭ Polščy rasparadžeńnie, kab u handli kurynyja jajki pradavalisia na vahu.

**Dobraja adprava.** Pasłanka Prystarycha (žonka maršałka Senatu Prystara) nadniach u m. Rudziškach pad Vilniaj sarhanizavała sabrańnie, na jakim pačała ahitavać prociŭ žydoŭ, havoračy ab „straganach“ (kramkach). Sialanie adnak pačali kryčać „davoli bajkaŭ, havary pani ab ziamielnaj reformie.“ Paśla hetaha na sabrańni paŭstaŭ taki šum, što sabrańnie treba było začynić, a p. Prystarycha zaraz-ža vyjechała z Rudzišak...

**Novy padatak.** U Polščy ad 5.IX.38 uvodzicca ŭ žyćcio novy padatak, hetym razam ad muki i krup. Padatak hety budzie abličacca ŭ młynoch u vyšyni 3 zł. ad 100 kil. hatovaje muki ci krup, praznačanaje na pradaž. Muka i krupy dla sobskaha ŭžytku haspadara ci jahonych rabotnikaŭ, abo pryznačanyja na prodaž zahranicu ad padatku hetaha buduć zvolnieny.

### *Паштовая скрынка*

**М. В. у Латвіі:** Кніжку атрымалі, шчыра дзякуем і чакаем на іншыя. Бракуючыя нумары „Шл. Мол.“ высылаем. Прывітаньне!

**Anicie:** Atrymali, dziakujem, mahčymiem nadrukavać, ale paśla, jak pabačymsia asabista. Pryvitańnie!

**М. М.** Творы атрымалі, шчыра дзякуем, будзем выкарыстываць. Прывітаньне!

**B. K.:** Karespandencyju drukujem i prosim nie zabyvać nadalej.

**Andreju Pasyniaku:** Vitajem! Artykuł, jak bačycie, drukujem i čakajem na reportažy z vašaje pabyŭki zahranicaj.

**M. Lebi-ču:** Karespandencyi atrymali, dziakujem, budziem drukavać!

**Hałabudzkamu:** Karespandencyju ab „dziejaču“ atrymali, dziakujem, ale pakul-što nia budziem jaje drukavać, bo nia chočam jaho začaplać, chiba jon na nas jźnoŭ budzie napadać, tady vykarystajem. Pryvitańnie!

**Ужо прыгатоўлены прэміі, якія будуць разлёсаваныя між тых падпісчыкаў, каторыя аплацяць акуратна падпіску за „ШЛЯХ МОЛАДЗІ“ на 1938 г. у суме 2 зл. і 50 гр.**

## ПЕРШАЙ ПРЭМІЯЙ БУДЗЕ РАДЫЁАПАРАТ.

**Апрача таго будзе разлёсавана: 10 бел. бібліятэчкаў, 5 гадавых падпісак на бел. літаратурна-навуковы час. «Калосьсе», 5 гадавых падпісак на гаспадарскі часапіс «Самапомач» і шмат іншых цэнных прэміяў. (Лёсаваньне адбудзецца сёлета ў кастрычніку месяцы).**

**Хто яшчэ падпіскі за 1938 г. не аплаціў, няхай зробіць гэта ў найбліжэйшым часе.**

*„Шлях Моладзі“ рэдагуе Рэдакцыйная Калегія. Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*

**Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).**

„ШЛЯХ МОЛАДЗІ“ выходзіць два разы ў месяц: 5 і 25. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр. Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ўдвая даражэй. — Нумар каотатэкі „przekazu rozrachunkowego“ 59.

Выдавец: „БЕЛПРЭС“. Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК.

BIBLJOTEKA w Wilnie im. Wróblewskich